ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 22 (2475) 30 мая 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.

СЛАВЯНСКІЯ ПЕРШАНАСТАЎНІКІ І БЕЛАРУСЬ

## ЯНЫ СЕЯЛІ ДАБРО

Мэта гэтай публікацыі -- прывесці новыя, да гэтага часу невядомыя архіўныя даныя і публікацыі ў беларускім друку больш 100 гадоў назад, якія сведчаць аб папулярнасці святых братоў Кірыла і Мяфодзія сярод насельніцтва Беларусі. Упершыню ўведзены ў навуковае абарачэнне архіўныя даныя пра свята ў Мінску, Віцебску, Рэчыцы, Лепелі, Полацку, выкарыстаны публікацыі "Епархіяльных ведамасцей", выдаваемых у Мінску і Магілёве і шэрагу іншых перыядычных выданняў.

Часопіс "Мінскія епархіяльныя ведамасці" публікуе многа разнастайных матэрыялаў, звязаных з жыццём, дзейнасцю і справай святых *Кірыла і Мяфодзія*. У вялікім біяграфічным нарысе "Жыццё і подзвігі святых Кірыла і Мяфодзія, асветнікаў славян" расказваецца аб тым, як рускі князь Уладзімір прыняў хрысціянства, і падкрэсліваецца: "Тады ў братоў нашых балгар была ўжо сапраўдная вера і служба на роднай мове, якую тады ўсе разумелі, ды і цяпер могуць разумець... Пайдзіце ў рускую, у балгарскую, у сербскую царкву і пачуеце і тое ж чытанне, і тое ж спяванне. Хрысціўся Уладзімір у Херсанісе грэчаскім (блізка ад Севастопаля), а свяшчэннікаў узяў больш балгар".

(Працяг на 7-й стар.).

## *ДА 60-ГОДДЗЯ БАРЫСА САЧАНКІ*



**Выдатнаму беларускаму пісьменніку і асветніку Барысу САЧАНКУ сёлета споўнілася б 60 гадоў. З гэтай нагоды друкуем паэму "Слова пра бацьку", напісаную яго дачкой Святланай Явар . Твор змешчаны на 6-й стар.**

## ЦІ ВЯДОМА ВАМ ГЭТАЕ ІМЯ?

**Год назад у Шальчынінкаі пачала выходзіць газета "Наша старонка". Выдае яе мясцовы Беларускі культурны цэнтр. Мяркуючы па змесце, газета "Наша старонка" -- тая духоўная пажыва, якая так неабходна літоўскім беларусам.**

**Прапануем адзін з матэрыялаў "Нашай старонкі" чытачам "Голасу Радзімы".**

## АЛЕСЬ САВІЦКІ

Надвячоркам 9 красавіка 1909 года праз вёску Красная, што ў 10 кіламетрах ад Гомеля, прашыбавала рота салдат. Развярнулася ў ланцуг і, то знікаючы ў клубах вячэрняга туману, то выплываючы з яго, пачала акружаць невялікую пуню непадалёку ад узлеску.

-- Дзікая дывізія, -- пранеслася сярод вяскоўцаў, якія збіралі з пашы жывёлу. І раптам, заглушаючы бразгат варот, ля пуні ўдарылі стрэлы. Спачатку чуліся залпы, потым бязладная страляніна. У прамежках вінтовачнай страляніны былі чутны адрывістыя рэвальверныя стрэлы.

Так пачаўся апошні дзень жыцця Алеся Савіцкага, нашчадка ваяра паўстання Кастуся Каліноўскага, чалавека, чыё імя на працягу чатырох гадоў было прычынаю клопатаў і галаўнога болю чыноўнікаў і ўраднікаў Усходняй Беларусі, Дзяржаўнай думы Расіі і нават самога цара Мікалая II.

Гэта аб ім спецыяльнае пасяджэнне Думы прыняло зварот-ультыматум да цара: "...Когда царь соблагоизволит утихомирить белорусского Зелим-хана (легендарны разбойнік Усходу)?" А быў Зелім-хан 21 году ад роду. Бацька яго, ратуючыся ад мураўёўскіх вешальнікаў, пераехаў з Віленчшыны ў Полацк, дзе пасля дамашняй адукацыі Алесь стаў невучэнцам рэальнага вучылішча. Да 1905 года вобраз Каліноўскага, яго славуты пароль: "Каго любіш?" -- "Люблю Беларусь" -- былі хатняй хрэстаматыяй, што натхняла душу таленавітага юнака.

У 17 год ён валодаў, акрамя беларускай мовы з усімі яе дыялектамі, французскай, польскай, яўрэйскай, расійскай і украінскай, напісаў паэму "Фея вясны", маляваў карціны. Але галоўным быў акцёрскі талент. Пераўвасобіцца ў царскага ўрадніка, польскага шляхціца, яўрэя-гандляра, селяніна ці бабулю было для яго звычайнай забавай.

Грымнуў 1905-ты. Заклік Каліноўскага з-пад шыбеніцы ўвасобіўся ў падпалы маёнткаў, баі з карнікамі, дэманстрацыі і студэнцкія хваляванні. З усёй няўрымслівасцю маладой душы кідаецца Алесь у вір рэвалюцыйных падзей. Вось ён у шэрагу мінскіх дэманстрантаў трапляе пад Курлоўскі расстрэл. 80 забітых, 300 параненых. Кулі і лапы жандараў мінулі Савіцкага, і вось ён рыхтуе напад на магілёўскую турму, стварае ў Чарнігаве рабочы клуб. Рэвалюцыя церпіць паражэнне, шматлікія правадыры паўстання, у тым ліку і Ленін, хуценька знаходзяць для сябе ціхія мясціны ў Еўропе, Амерыцы, пакінуўшы збройны люд на кулі і шыбеніцы. Вызначае свой шлях і Алесь Савіцкі: гэта шлях узброенай барацьбы. Няма надзеі на ўсеагульнае паўстанне, але хтосьці павінен абараняць і падтрымліваць надзею на надыход новых дзён для беларускага люду. І нечакана перад карнікамі і жандарамі з'яўляецца прывід -- двухсоценны атрад паўстанцаў, які, то збіраючыся ў купу, то рассейваючыся на дробныя групы, вяршыць суд і права ад Мінска да Оршы, ад Полацка да Чарнігава. Яшчэ няма ў жандарскіх паперах прозвішча кіраўніка атрада, яго прыкмет, а народ любоўна называе паўстанцаў -- савічане. Атрад выдатна ўзброены і абучаны, скаваны жалезнай дысцыплінай і сяброўскай адданасцю. Кожны паўстанец уласнай крывёю падпісвае статут атрада: "...Усе за аднаго... Ніколі не здавацца ў палон... Калі нехта трапіў -- усім загінуць, а выручыць... Ніколі не выдаваць сяброў і свайго сапраўднага прозвішча... Ісці на шыбеніцу са знявагай да ворага... Ніколі не ліць задарма кроў..."

Прыціснутыя карнікамі беларусы пачалі распрамляцца. З'явіўся рыцар, які ніколі не дараваў здзекі з народа, здраду.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

## "ДАЧА" -- СЛОВА ПАПУЛЯРНАЕ




**Па выхадных днях сотні тысяч беларусаў, пераапрануўшыся ў рабочае (звычайна старое) адзенне, з рукзакамі, вёдрамі, каробкамі накіроўваюцца на прыпынкі прыгарадных аўтобусаў і электрапаяздоў -- яны едуць на дачы.**

*(Працяг рэпартажу на стар. 8).*

## ДА ЧЫТАЧОЎ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"!

**Працягваецца падпіска на перыядычныя выданні Беларусі, і вы, шаноўныя чытачы, маеце магчымасць падпісацца на "Голас Радзімы" на другое паўгоддзе 1996 года.**

**Спадзяемся, што вы зробіце гэта неадкладна, каб не спазніцца.**

**Наш індэкс -- 63854.**

# САР'Я

**(НАРЫС З ГІСТОРЫІ МАЁНТКА І РОДУ ЛАПАЦІНСКІХ)**

Касцёл быў асвячоны ў 1792 годзе ў імя Св. Тройцы, Св. Язэпа і Сэрца Ісуса родным братам фундатара храма трыпалітанскім біскупам Юзафам Лапацінскім, які 15 апошніх гадоў свайго жыцця правёў у Сар'і. Гэты прадстаўнік роду Лапацінскіх быў шырока вядомы сучаснікам сваімі ведамі і цнотай. Памёр ён у 1803 годзе і быў пахаваны ў Росіцкім касцёле.

Наступнае пакаленне Лапацінскіх таксама дбала пра існаванне храма. Дрысенскі маршалак Тамаш Ігнат Лапацінскі адпісаў касцёлу напачатку вёску Ліпнікі, 50 беркаўцаў сена ды 20 вазоў саломы, а пазней, у 1812 годзе, — яшчэ 400 злотых, забяспечаных ім на фальварку Росіца. Жонка Тамаша Барбара з Шадурскіх у 1807 годзе заснавала пры касцёле шпіталь "для 12-ці ўбогіх сар'янскіх падданых". Пасля смерці гэтая пабожная жанчына была пахавана ў склепе Росіцкага касцёла.

У другой палове XIX стагоддзя гэты касцёл быў адзіным парафіяльным каталіцкім храмам на ўсю ваколіцу. Да яго былі прыпісаны тры невялікія капліцы: у Балінах, Бігосаве і Наўлянах. У 1880-х гадах агульная колькасць парафіян Росіцкага касцёла ў гонар Св. Тройцы перавышала 6 000 чалавек, што было занадта многа для невялікага па памерах храма.

Насельніцтва Росіцы не было аднародным у канфесійных і этнічных адносінах. Прадстаўнікі шляхты лічылі сябе палякамі і спавядалі каталіцтва. У касцёл хадзіла і пэўная частка беларусаў. Другая частка беларускага насельніцтва была праваслаўнай і наведвала царкву, што была ўзведзена ў мястэчку коштам урада пасля паўстання 1863 года. У Росіцы жыло і шмат яўрэяў, асноўны занятак якіх складалі рамёствы і дробны гандаль.

Мястэчка было невялікім па памерах. Размяшчалася яно паблізу Росіцкага стаўка і складалася з адной прадольнай вуліцы ды слабады сялян-уласнікаў. Паводле звестак інвентара сар'янскага маёнтка за 1871 год, у Росіцы налічвалася 42 дамы, у якіх жылі 243 чалавекі. Сялянская слабада пры мястэчку складалася з 35 дамоў.



Пасля ўступлення ў валоданне Росіцай Ігната Лапацінскага з ім і мясцовым яўрэйскім таварыствам адбылася адна непрыемная гісторыя, якая дадае новыя штрыхі да партрэта ўжо добра вядомага нам шляхціца. З пажоўклых аркушаў архіўных спраў Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь зусім нечакана перад намі паўстае жорсткі і бязлітасны юдафоб, так непадобны да пяшчотнага і сентыментальнага будаўніка касцёла ў Сар'і. Справа ж заключалася ў наступным.

Зрабіўшыся паўнапраўным уладаром сар'янскага маёнтка, Ігнат Лапацінскі пажадаў выселіць з яго ўсіх яўрэяў, якія на той час жылі пераважна ў Росіцы і яе ваколіцах ужо больш за сто гадоў. На зямлі, што належала Лапацінскаму, жыло каля 60 яўрэйскіх сем'яў агульнай колькасцю 250 чалавек, якія заўсёды спраўна плацілі ўладару належны зямельны чынш. "Адчуваючы гнеў да саслоўя яўрэяў", дрысенскі маршалак найперш вырашыў стварыць ім невыносныя ўмовы для існавання, каб яны самі пакінулі межы маёнтка. Што гэта былі за ўмовы, даведваемся са скаргі росіцкіх яўрэяў міністру ўнутраных спраў Расійскай імперыі Сяргею Ланскому, датаванай 10 лістапада 1856 года. У ёй, у прыватнасці, гаварылася: "Па-першае, Ігнат Лапацінскі стварыў пры маёнтку сваім суд з трох абраных ім уласных сялян, якім прадаставіў неабмежаваную ўладу дзейнічаць супраць яўрэяў па сваёй волі. І вырак гэтага суда выконваўся заўсёды самым жорсткім чынам шляхам вымання зімой у самы люты мароз акон і дзвярэй. Па-другое, не задавальняючыся гэтым, ён забараніў куплю харчовых запасаў, так што мы павінны былі ехаць у аддаленыя мясціны за хлебам. Зрэшты, забараніў куплю дроў не толькі ў сваіх сялян, але і ў усіх чужых, нават і тыя, што былі ў некаторых гаспадароў у запасе, гвалтам адабраў у зімнюю пару (...) Гэтай мерай ён паспеў пазбавіць нас пяці бязвінных душ, якія зрабіліся ахвяраю пакутлівай смерці ад невыноснага холаду".

Аднак Ігнат Лапацінскі не задаволіўся толькі гэтымі мерамі. З яго згоды 30 жніўня 1856 года адміністратар сар'янскага маёнтка Людвік Мірскі разам з 600 сялянамі разрабаваў яўрэйскія гаспадаркі, а саміх уладароў іх вывез прымусова з мястэчка і пакінуў у полі. Яшчэ адзін налёт на росіцкіх яўрэяў быў учынены праз некалькі дзён, у ноч з 2 на 3 верасня, калі 200 сялян на чале з валасным пісарам Юхневічам паспрабавалі вывезці яўрэйскія сем'і ў Дрысу, а маёмасць іх аддалі рабунку. У выніку гэтых злачынных акцый былі разбураны 31 дом і гаспадарчыя пабудовы, шмат яўрэйскіх сем'яў пазбавіліся даху над галавой і ўсялякіх сродкаў да існавання.

Не да ўсіх сваіх падданых дзяржаўныя структуры Расійскай імперыі ставіліся з аднолькавай увагай. Спатрэбілася цэлыя тры гады на тое, каб скарга росіцкіх яўрэяў на памешчыка Лапацінскага была разгледжана ў Правячым Сенаце. Аднак і там яна не была канчаткова вырашана, а накіравана на дагляд у Віцебскае губернскае праўленне, дзе розныя чыноўныя людзі займаліся ёю на працягу яшчэ трох гадоў. За гэты тэрмін назбіралася ёмістая архіўная справа, якая заняла 883 вялікафарматныя аркушы і зараз захоўваецца ў Нацыянальным архіве РБ. З яе вынікае, што Сенат сваім указам ад 23 кастрычніка 1859 года прадпісаў Віцебскаму губернскаму праўленню хутчэй вырашыць канфлікт паміж Ігнатам Лапацінскім і росіцкімі яўрэямі. Непасрэдны разгляд справы быў даручаны Дрысенскаму павятоваму і земскаму суду. Нарэшце ў сакавіку 1860 года справа была вырашана на карысць яўрэйскай грамады: выселеных яўрэяў было загадана вярнуць "на жыхарства ў слабадзе Росіца". З такім рашэннем не пажадаў пагадзіцца Ігнат Лапацінскі, які накіраваў адпаведную скаргу міністру ўнутраных спраў С.Ланскому. У красавіку 1861 года да гэтай жа інстанцыі зноў апелявалі "дрысенскія мяшчане Росіцкага яўрэйскага таварыства", і ім, нарэшце, удалося канчаткова выйграць справу. Памешчыка Лапацінскага абавязалі адбудаваць разбураныя па яго загаду яўрэйскія дамы.

Аднак не так проста было прымусіць наравістага Ігната Лапацінскага рабіць тое, чаго ён не жадаў. Ён катэгарычна адмовіўся даваць накіраванаму да яго віленскаму паліцмайстару падпіску аб выкананні рашэння суда і ўвогуле змарнаваў яшчэ процьму часу сваёй упартасцю. Толькі ў другой палове 1862 года паміж уладаром маёнтка Сар'я і росіцкімі яўрэямі было дасягнута пагадненне, а да верасня месяца таго ж года толькі 7 яўрэйскіх сем'яў з ліку выгнаных Лапацінскім не змаглі вярнуцца на жыхарства ў Росіцу.

Атрымаўшы магчымасць зноў жыць у мястэчку, росіцкія яўрэі зноў вярнуліся да сваіх звыклых заняткаў. На пачатку XX стагоддзя іх колькасць амаль у 3,5 раза перавысіла колькасць хрысціянскага насельніцтва Росіцы: сярод 647 жыхароў яўрэяў было 501 чалавек. У гэты час павялічылася і само мястэчка. У ім было цяпер 250 драўляных пабудоў (праўда, з іх толькі 103 выкарыстоўваліся для жылля) і 6 камяніц. Стары драўляны касцёл у гонар Св. Тройцы, дзякуючы новаму павелічэнню колькасці парафіян, зрабіўся ўжо зусім цесны, і таму было вырашана прыступіцца да будаўніцтва новага мураванага храма.

Ініцыятыву па арганізацыі прац па ўзвядзенні новага касцёла ўзяў на сябе пробашч старога храма ксёндз Тодар Кулікоўскі. Дзяржава па-ранейшаму не надта ахвотна выдаткоўвала сродкі на будаўніцтва новых каталіцкіх касцёлаў, таму ксёндз Кулікоўскі выраш[illegible] сабраць іх сярод сваіх пабожных п[illegible]іян, у якіх ён карыстаўся вялікім аў[illegible]рытэтам. Адбыўся парафіяльны сход, на якім было вырашана кожнаму землеўладальніку ўнесці грашовае ахвяраванне ў памеры 1,5 рубля з кожнай дзесяціны зямлі. Гэтым быў пакладзены пачатак фундушу на богаўгодну[illegible]праву, які пазней дапоўнілі [illegible]зімі ахвяраваннямі шляхціцы Шадурскія з Наўлян і Нітаслаўскія з Бігосава. Аднак самае вялікае ўкладанне зрабіў Станіслаў Лапацінскі, сын Ігната, які ахвяраваў на касцёл мільён штук цэглы, 5 000 дрэў і 20 тысяч рублёў гатоўкай. Праўда, выдаткі на ўзвядзенне новага храма перакрылі ўсе сабраныя грошы, і ксяндзу Кулікоўскаму яшчэ неаднойчы давялося звяртацца да новых ахвярадаўцаў.

14 чэрвеня 1905 года ад Магілёўскай рыма-каталіцкай духоўнай кансісторыі быў атрыманы дазвол на ўзвядзенне новага касцёла ў Росіцы, і ўжо ў наступным годзе асвяцілі яго закладны камень. Будаўніцтва храма доўжылася пяць гадоў, з якіх два былі адметныя тым, што на іх працягу ніякіх прац увогуле не праводзілася з-за поўнай адсутнасці сродкаў.

Мураваны Росіцкі касцёл быў узведзены ў традыцыях так мілай сэрцу ўладароў маёнтка Сар'я неагатычнай архітэктуры з чырвонай неатынкаванай цэглы. Храм меў тры нефы, пяцігранную апсіду і дзве ўзнёслыя вежы на галоўным фасадзе. Да нашага часу захаваўся асноўны аб'ём будынка, пазбаўлены, праўда, абедзвюх вежаў фасада, што адразу надало яму прысадзісты і каржакаваты выгляд. Архітэктурнае аздабленне галоўнага фасада Росіцкага касцёла, як можна меркаваць паводле яго выявы, змешчанай у кнізе "Нашы касцёлы" (1913 год), вельмі нагадвала аблічча касцёла Св.Барбары на старадаўніх каталіцкіх могілках у губернскім Віцебску. Абодва храмы мелі падобныя прапорцыі двух ярусных вежаў (чатырохгранных у першым і шасціграных у другім ярусе), аднолькавыя гранёныя шатры ў іх завяршэнні, аналагічныя трохкутныя франтоны над уваходамі і ў завяршэнні цэнтральных частак фасадаў. Віцебскі касцёл быў узведзены амаль на 30 гадоў раней -- у 1884 годзе, і аўтарам яго праекта быў інжынер Віктар Піятроўскі-Юнаша. Магчыма, пры ўзвядзенні храма ў Росіцы быў выкарыстаны гэты ж самы праект, што значна змяншала агульны кошт новай будоўлі. Такое паўтарэнне, калі яно і было, думаецца, не надта шкодзіла эстэтычным густам мясцовага насельніцтва -- Віцебск і Росіца знаходзіліся на адлегласці амаль дзвюх соцень вёрст адно ад аднаго, і наведаць хоць раз у жыцці губернскае места выпадала далёка не кожнаму жыхару Дрысенскага павета.

Росіцкі касцёл быў асвячоны 20 снежня 1911 года ў імя Сэрца Ісуса і Св.Антонія Падуанскага. У храме было 5 алтароў. Галоўны алтар з дубовага дрэва быў перанесены са старога драўлянага касцёла, які на той час быў ужо разабраны і прададзены на будаўнічыя матэрыялы аднаму млынару. Яшчэ 4 алтары -- у гонар Маці Божай Вастрабрамскай, Св.Язэпа з дзіцём Ісусам, Св. Пакутніка Станіслава Кракаўскага і Св. Антонія Падуанскага — былі выкананы таксама з дуба і размяшчаліся ў бакавых прыдзелах. Абразы для гэтых алтароў ахвяравалі парафіяне: абраз Маці Божай Вастрабрамскай -- паны Шадурскія, абраз Св.Язэпа -- Нітаслаўскія з Бігосава, абраз Св.Станіслава — Станіслаў Лапацінскі.

З цяжкасцю пабудаваны на дабрачынныя ахвяраванні, Росіцкі касцёл не меў асаблівага і багатага ўнутранага начыння. Са старога храма ў яго быў перанесены арган на 6 рэгістраў, які, паводле звестак касцёльнага інвентара за 1914 год, быў "сапсаваны, пацукамі падточаны і ўжо больш за месяц не выдаваў ніводнага гуку". Адметнасцю храма была, бадай што, толькі кафляна-цэментная плітка падлогі — дабрачыннае ахвяраванне Шадурскіх з Наўлян.

На пачатку XX стагоддзя росіцкая парафія была самай вялікай на Віцебшчыне і налічвала ў сваім складзе 8 тысяч вернікаў. Найбольш аддаленыя вёскі знаходзіліся на адлегласці 25 вёрст ад мястэчка, што, аднак, не замінала парафіянам наведваць Росіцкі касцёл у самыя радасныя і змрочныя часіны свайго жыцця.

## АПОШНІЯ ЎЛАДАРЫ

Станіславу Яну Лапацінскаму давялося стаць апошнім уладаром Сар'і. Ягоны сын Эўзебіюш Марыян Ян Станіслаў (1882-1961), вядомы гісторык мастацтва, бібліяфіл і калекцыянер, у Сар'і ўжо не жыў. Нарадзіўся ён 1 сакавіка 1882 года ў Кіеве, скончыў гімназію ў Рызе, далей вучыўся ў Ягелонскім і Дэрпцкім (сучасны г.Тарту) універсітэтах, шмат гадоў падарожнічаў па Еўропе, наведаў Францыю, Швейцарыю, Італію.

Прадстаўнікам роду Лапацінскіх увогуле вельмі шчасціла трапляць на старонкі дзённікавых запісаў сваіх сучаснікаў. Захаваліся такія нататкі і пра Станіслава і Эўзебіюша Лапацінскіх, якія пакінула нам Яніна Жалтоўская з Путкамераў, стрыечная сястра першай жонкі Зібі (так у сям'і звалі малодшага Лапацінскага). Мемуары гэтыя пад назвай "Іншыя часы, іншыя людзі" былі напісаны аўтаркай на эміграцыі і выдадзены ў Лондане ў 1959 годзе. Насычаныя каларытнымі падрабязнасцямі і суб'ектыўнымі ацэнкамі, яны пераносяць нас у атмасферу жыцця сар'янскага маёнтка 1905--1908 гадоў і вельмі яскрава акрэсліваюць вобразы яго ўладароў.

"Пан Станіслаў Лапацінскі як чалавек свецкі і дбаючы пра заваяванне людзей рассыпаўся ў гасціннасці і пачцівасці. Ягонае красамоўства, пастава, лад жыцця, павага, якой ён быў абкружаны, рамантычныя недагаворванні пра нябожчыцу жонку маглі абудзіць сімпатыю. Насіў ён сябе па-панску, і мы называлі яго -- ваявода, -- пісала ў сваіх успамінах Яніна Жалтоўская. Чытаем іх далей: "Жанаты ён быў з графіняй Борх, якая паходзіла з вялікага, але заняпалага роду, рана аўдавеў, аднак усе ведалі, бо ён сам гаварыў аб гэтым, што не суцешыўся пасля яе страты і кожны год наведваў магілу жонкі ў Швейцарыі. Таксама вельмі маладым атрымаў ён вялікую спадчыну, абцяжараную, аднак, даўгамі, прычынай якіх было марнатраўства бабкі Дароты з Марыконі, і таму працаваў у Кіеве адвакатам, каб уратаваць спадчыну".

Шляхетная пастава Станіслава Лапацінскага, яго прыгожы твар "з арліным носам і спушчанымі ўніз вусамі", як адзначае Яніна Жалтоўская, падабаліся сучаснікам. Выключэнне складала толькі нейкая пані Трыпольская, якая казала ў салонах, што менавіта такім яна ўсё жыццё і ўяўляла сабе пана Твардоўскага, які, як вядома, вадзіў сяброўства з самім д'яблам.

Яніне Жалтоўскай неаднойчы даводзілася гасцяваць у Лявонпалі і Сар'і. Упершыню яна наведала Сар'ю ў 1907 годзе. Апроч Станіслава Лапацінскага там жылі былы настаўнік Эўзебіюша пан Гінтаўт і старая ахмістрыня Юзэфа Шчучкава.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: палац у Лявонпалі.**
**Фота 1976 года.**

**Працяг.**
**Пачатак у NN 16 — 21.**

# ЯНЫ СЕЯЛІ ДАБРО

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

Пасля хрышчэння Русь зведвае вострую неабходнасць у літаратуры на славянскай мове. Веснік "Віцебскія губернскія ведамасці" вельмі трапна адзначае: "Разам са славянскімі кнігамі свяшчэннага пісання перайшло да нас з Балгарыі мноства і іншых кніг, складзеных у ёй на славянскай мове. Гэта большай часткай былі пераклады грэчаскіх кніг самага разнастайнага зместу: багаслоўскага, філасофскага, гістарычнага, граматычнага, юрыдычнага і, нарэшце, белетрыстычнага. Пры дапамозе гэтых кніг усе вынікі высокай хрысціянскай адукаванасці візантыйскай зрабіліся вядомымі рускай зямлі, былі засвоены рускімі людзьмі і паслужылі асноваю ўласна рускай адукаванасці, што зілася пасля Пятра Вялікага з адукаванасцю агульнаеўрапейскаю". У заключэнні рэдакцыйнай інфармацыі падкрэсліваецца, што ўсё рускае развіццё -- нацыянальнае, навуковае, літаратурнае і палітычнае -- грунтуецца і вырастае на трывала закладзеным Кірылам і Мяфодзіем фундаменце. Вядома, што старажытны Полацк, які разам з Кіевам і Ноўгарадам з'яўляўся буйным старажытнарускім культурным цэнтрам, наладзіў сувязі з Балгарыяй. Кнігі Кірыла і Мяфодзія знаходзіліся ў бібліятэцы Ефрасінні Полацкай. Манастыры Полацкага і Тураўскага княстваў былі буйнымі ачагамі асветы. У іх і ў іншых манастырах на тэрыторыі Беларусі пісаліся і спісваліся царкоўныя і свецкія кнігі. "Пры кіраўніцтве гэтых кніг, -- піша П.Сакалоў, -- нашы продкі не толькі навучыліся мысліць, правільна глядзець на свет, на саміх сябе і на ўсе абставіны свайго жыцця, але да гэтых жа кніг звярталіся яны ў хвіліны радасцей і набожных захапленняў; да іх жа спяшаліся яны ў хвіліны бед і смутку. І натуральна і непрыкметна выхоўваўся і мацнеў набожны напрамак у розумах і сэрцах рускіх людзей".

Неабходна падкрэсліць, што духоўная і асветніцкая дзейнасць выдатных балгарскіх царкоўных і грамадскіх дзеячаў Кіпрыяна (каля 1330--1406) і яго пляменніка Рыгора Цамблака (каля 1364- каля 1420) займае асобае месца ў жыцці беларускага народа і садзейнічае расшырэнню і зацвярджэнню справы Кірыла і Мяфодзія. У 1375--1389 гадах Кіпрыян быў мітрапалітам Кіеўскім і Літоўскім і працаваў у Беларусі. У "Памятнай кніжцы" Віцебскай губерні ад 1889 года на старонцы 56 -- "вядомыя рускія святыя і на месцах шаноўныя падзвіжнікі" адзначана: "Кіпрыян, мітрапаліт Кіеўскі і Маскоўскі, 1406 года 16 верасня і 27 мая". Рыгор Цамблак, шырокаадукаваны, былы настаяцель двух манастыроў, атрымлівае шырокую вядомасць у Беларусі. У лістападзе 1415 года па патрабаванню літоўскага князя Вітаўта склікаецца царкоўны сабор праваслаўных епіскапаў у Навагрудку і Рыгор Цамблак без згоды патрыярха выбіраецца мітрапалітам Княства Літоўскага. Тады Беларусь уваходзіць у межы гэтага княства з афіцыйнай мовай -- беларускай, і месцазнаходжаннем мітраполіі ў Навагрудку. Маючы вялікі талент прамоўцы, Рыгор Цамблак прапаведуе не толькі ў Навагрудку, але і ў іншых гарадах Беларусі. Тут ён піша свае лепшыя творы, што ўвайшлі ў скарбніцу славянскіх літаратур -- "Слова пахвальнае мітрапаліту Кіпрыяну", жыццё свайго настаўніка -- балгарскага патрыярха Яўхіма Тырнаўскага, царкоўныя пропаведзі, павучэнні, пахвальны словы і многа іншых. У той час яны атрымалі шырокае распаўсюджванне і потым многа разоў спісваліся мясцовымі кніжнікамі. У час свайго знаходжання ў Беларусі Рыгор Цамблак праводзіць вялікую асветніцкую работу, рыхтуе шматлікіх сваіх вучняў і паслядоўнікаў. "Творчая работа Рыгора Цамблака, -- падкрэслівае беларускі літаратуразнаўца В.Чамярыцкі, — з'яўляецца яркім прыкладам плёну міжславянскіх культурных сувязей". Справа гэтага балгарскага асветніка і духоўніка не забыта беларускім народам. У новаадкрытым гістарычным музеі ў Навагрудку ёсць аддзел, у якім экспанаты і фатаграфіі расказваюць аб дзейнасці Рыгора Цамблака ў Беларусі.

І па сёння на тэрыторыі Беларусі існуе шэраг помнікаў матэрыяльнай культуры, звязаных з імёнамі святых першаапосталаў. Гэта ў першую чаргу цэрквы, манастыры і іконы. На жаль, лёс беларускага народа вельмі падобны да лёсу балгарскага народа: доўгія гады беларусы жылі пад чужым уладараннем, узнікала пагроза забыцця роднай мовы. Тэрыторыя Беларусі была арэнай барацьбы ўсходняга праваслаўя, каталіцызму і іншых рэлігійных плыняў. У залежнасці ад перавагі тых ці іншых храмы і цэрквы пераймяноўваліся і пераасвячаліся. Тысячы цэркваў у недалёкім мінулым былі знішчаны, сярод іх і такія, што насілі імёны славянскіх першанастаўнікаў. Паводле даных статыстыкі аб цэрквах у Полацкай епархіі, апублікаваных у "Памятнай кніжцы"Віцебскай губерні за 1889 год "пры Віцебскай духоўнай семінарыі існавала царква Кірыла і Мяфодзія -- каменная, трывалая, цёплая".

У цэнтры сталіцы Беларусі знаходзіцца будынак былога Кірыла-Мяфодзіеўскага манастыра, асвячонага імёнамі святых братоў у студзеня 1860 года. Да гэтай даты там знаходзіўся жаночы бернардзінскі манастыр, а пасля рэвалюцыйных перамен 1917 года выкарыстоўваўся ў недухоўных мэтах, цяпер -- філіял Беларускай філармоніі. У памяць Кірыла і Мяфодзія заснавана і цяпер дзейнічае царква, названая іх імёнамі. Яна размешчана ў падвальным паверсе кафе[дра]льнай царквы "Святога Духа[". Г]этыя факты садзейнічалі пера[й]менаванню вуліцы, якая праходзіць міма былога манастыра, і сёння яна носіць імя Кірыла і Мяфодзія. 24-га мая 1990 года адбылося афіцыйнае абвяшчэнне назвы вуліцы і на будынку было[га ма]настыра Святых Кірыла і М[яф]одзія быў устаноўлены барэльеф з выявамі святых братоў, падораны беларускаму народу балгарскім народам, з надпісам: "Вуліца названа ў гонар славянскіх асветнікаў Кірыла і Мяфодзія, якія жылі ў канцы 9 стагоддзя".

На тэрыторыі Беларусі знаходзіцца яшчэ адна дзеючая царква, названая імем славянскіх першанастаўнікаў, -- у пасёлку Пагост-Загародскі Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Гісторыя храма вельмі няпростая. З 1860 года гэта драўляная каталіцкая царква, у 1888 годзе -- грэка-каталіцкі уніяцкі храм. У 1896--1899 гадах з дазволу рускага імператара храм перабудаваны і пераабсталяваны ў праваслаўную царкву. Ініцыятарам усіх работ становіцца свяшчэннік Лука Тычына. Пры асвячэнні храма і наданні яму імёнаў Святых Кірыла і Мяфодзія прымае ўдзел прэасвяшчэнны Міхаіл -- епіскап Мінскі і Тураўскі. У 1920—1939 гадах гэта каталіцкая царква пасля рэканструкцыі яе палякамі ў 1935 годзе. У канцы 40-х гадоў царква зноў перабудавана ў праваслаўную, якой яна з'яўляецца і сёння. У цаглянай царкве, якая ацэпляецца, знаходзіцца ікона XIX стагоддзя 100 х 80 сантыметраў з аблічччамі Святых Кірыла і Мяфодзія. Цікава таксама, што непадалёку ад Пагоста-Загародскага, у Пінкавічах, у царкве, знаходзіцца яшчэ адна ікона XIX стагоддзя з аблічччамі святых братоў, 118 х 65 сантыметраў. Рашэннем беларускіх уладаў сярэдняя школа ў Пагосце-Загародскім са жніўня 1992 года таксама носіць імёны братоў Кірыла і Мяфодзія. Да гэтых фактаў неабходна дадаць таксама тое, што недалёка ад памянёнага населенага пункта, таксама ў Пінскім раёне, знаходзіцца вёска Балгары. Мясцовы старажыл Антон Астроўскі (1907 года нараджэння) гаворыць: "Мы перасяліліся з Балгарыі вельмі даўно, мову сваю забылі". Дзед Антон лічыць, што ён з'яўляецца пятым ці шостым пакаленнем пасля перасялення. Вёска налічвае 38 дамоў, пабудаваных пасля 1915 года, таму што ўся вёска згарэла ў тым годзе ў час вайны.

Пытанне аб кірыла-мяфодзіеўскіх іконах у Беларусі заслугоўвае асобнага самастойнага даследавання. Мною было ўстаноўлена, што іконы з аблічччамі славянскіх першанастаўнікаў знаходзяцца ў наступных цэрквах у Мінску; у кафедральнай царкве Святога Духа, у царкве Святых Кірыла і Мяфодзія, у Мінскім епархіяльным упраўленні, у царкве пры гэтым упраўленні, у храме-помніку Аляксандра Неўскага; у Мінскай вобласці: у цэрквах Валожына, Сцяглы, Нясвіжа, у Віцебскай вобласці: у цэрквах пасёлкаў Бочына, Глыбокае і Забор'е, у царкве Барыса і Глеба ў Магілёве, у саборы і царкве Святога Уладзіміра ў Гродне; у цэрквах наступных населеных пунктаў Гродзенскай вобласці: Скідзель, Накрышкі, Дакудава, Бляні, Бялавічы, Будзевічы, Лаўрышава, Гальшаны, Пераэвонкі, Шылавічы, Залессе, Астрыно, у семінарыі ў Жыровічах. У гісторыка-архіўным музеі ў Гродне знаходзяцца таксама дзве іконы з выявамі Святых Кірыла і Мяфодзія. Гэтыя беларускія іконы ствараліся ў XVIII, XIX, XX стагоддзях.

У музеі ў Гродне я знайшоў медальён XIX стагоддзя. У цэнтры ва ўвесь рост адлюстраваны стваральнікі славянскай азбукі, а паўкругам уецца надпіс: "Асветнікі славян Св.Мяфодзій, Св. Кірыл". На адвароце надпіс: "Абаронцы праваслаўя. Яны далі нам слова Божае і богаслужэнне на роднай мове". На жаль, у дакументацыі музея няма даных аб тым, адкуль паступіў гэты медальён, не ўстаноўлена тасама, дзе ён быў выраблены.

У музеі горада Ветка Гомельскай вобласці таксама ёсць стараверская ікона з лікамі Св.Кірыла і Св.Мяфодзія. Для сваіх хатніх патрэб старавееры спісвалі царкоўныя кнігі і пісалі іконы. Сярод іх распаўсюджана павер'е, што калі бацькі хочуць, каб іх дзіця стала адукаваным, вучоным, то яшчэ з нараджэння ў яго пакоі павінна вісець ікона славянскіх першанастаўнікаў.

Цікавы экспанат, звязаны з нашай тэмай, захоўваецца у абласным краязнаўчым музеі ў Брэсце. Гэта драўляны грабеньчык, знойдзены ў 1970 годзе пры раскопках пасёлка Бярэсце ў пабудове N 8, датаванай канцом XIII стагоддзя. Бярэсце -- адзін з самых старажытных гарадоў на тэрыторыі Беларусі, размешчаны ў раёне Брэсцкай крэпасці. Грабеньчык мае памеры: шырыню 7,3 сантыметра, вышыню 8,5 сантыметра і таўшчыню 1 сантыметр. На адным яго баку невядомы аўтар выразаў літары на кірыліцы А Б В Г Д Е, а на другім -- Ж З Н І К Л. Грабеньчык з азбукай з Бярэсця з'яўляецца своеасаблівым букваром, што сведчыць аб распаўсюджанні славянскай пісьменнасці ў Беларусі. Напэўна, ён быў створаны раней, чым датаванне пласта, у якім знойдзены. Даследуючы палеаграфічныя асаблівасці літар, беларускі вучоны П.Лысенка піша: "Па храналагічнаму графіку бытавання палеаграфічных асаблівасцей напісання літар алфавіта на берасцейскім грабеньчыку можна зрабіць вывад, што большасць з іх характэрная для пачатку XIII стагоддзя".

Свята Святых Кірыла і Мяфодзія ў 1885 годзе ў Беларусі, як і ў іншых славянскіх краінах, было святам перш за ўсё царквы і школы, святам свяшчэннаслужыцеляў, выкладчыкаў і навучэнцаў. Руская праваслаўная царква, у тым ліку і на тэрыторыі Беларусі, двойчы да гэтай даты мела магчымасць ушанаваць памяць славянскіх першанастаўнікаў: першы раз 14 лютага 1869 года ў памяць тысячагоддзя смерці Святога Кірыла і другі раз 26 кастрычніка 1884 года з нагоды тысячагоддзя перакладу Біблії на славянскую мову.

**Пётр КУЦАРАЎ.**

З балгарскай мовы пераклала Росіца КАМЕНАВА.

(Працяг будзе.)



**У старажытным Давід-Гарадку спакон вякоў жылі цыгане. Цяпер іх тут каля 350 чалавек. Многія маюць свае дамы, прысядзібныя ўчасткі, займаюцца рознымі промысламі.**

**Ёсць у Давід-Гарадку і свой цыганскі барон. Гэта 65-гадовы Мікалай Грамовіч. Ён нарадзіўся на гэтай зямлі, каля трыццаці гадоў прарабіў у мясцовым калгасе кавалём, а цяпер на пенсіі.**

**НА ЗДЫМКАХ: Мікалай ГРАМОВІЧ і яго нашчадкі; давід-гарадоцкія цыгане.**

**Фота Эдуарда КАБЯКА.**



## АДЗІНЫ Ў ЕЎРОПЕ

Сем гадоў ідзе рэстаўрацыя Мірскага замка. З руін паўстаюць муры старажытнай пабудовы XV — XVI стагоддзяў. Аднаўляюцца яны мясцовымі майстрамі. Кіраўніком гэтай справы стаў прараб Браніслаў Кракавецкі. Калектыў, які вядзе рэстаўрацыю, налічвае 27 чалавек. Толькі высокакваліфікаваных рэстаўратараў-майстроў прывозяць з Нясвіжа.

Рэстаўрацыя вядзецца згодна з праектам, без адступленняў. З дакументальнай дакладнасцю захоўваецца тут як вонкавы, так і ўнутраны выгляд. На другім паверсе замка ўжо завершаны сталярныя і малярныя работы. Ідзе падрыхтоўка пакояў для размяшчэння музейных экспазіцый.

У мінулым годзе на рэстаўрацыі замка было асвоена 2 мільярды трыста мільёнаў рублёў. На сённяшні дзень адрамантаваны тры вежы, у адной з іх ужо размешчаны філіял музея. Таму ў выхадныя і святочныя дні тут шмат экскурсантаў.

## ПАМЯЦЬ ПРА СЛАВУТАГА ЗЕМЛЯКА

Вершам "Сляды" мясцовага паэта Івана Вярбіцкага карэліцкая раённая газета "Полымя" пачала публікацыю лепшых паэтычных твораў, якія дасылаюцца на раённы конкурс, што абвешчаны рэдакцыяй мясцовай газеты і аддзелам культуры Карэліцкага райвыканкома.

Конкурс задуманы з мэтай актывізацыі падрыхтоўкі да юбілею -- 200 угодкаў з дня нараджэння славутага земляка, паэта-фальклярыста Яна Чачота і больш шырокага адлюстравання паэтычнай спадчыны роднага краю.

15 чэрвеня да гэтай даты прымеркаваны трэція краязнаўчыя чытанні. 23 чэрвеня на радзіме паэта, у вёсцы Малюшычы, намечана правесці рэспубліканскае свята з гэтай нагоды. У гэты ж дзень на радзіме паэта будзе ўстаноўлены бюст Яна Чачота і адзначаны пераможцы раённага паэтычнага конкурсу.

**Пётр ЖЭБРАК.**

# "ДАЧА" -- СЛОВА ПАПУЛЯРНАЕ











Надышло цяпло, і слова "дача" стала амаль ці не самым папулярным у беларусаў-гараджан. Увогуле сёння дача, дачны ўчастак -- гэта ўжо цэлы пласт сучаснага жыцця краіны, адметная сацыяльная з'ява, якая лепей за ўсялякія заклікі, мітынгі і "круглыя сталы" яднае грамадзян Беларусі. Бо тут усіх хвалююць адны і тыя ж праблемы: дзе ўзяць і як завезці ў тэрмін на грады гной, ці дазваляе адмысловы месячны каляндар у выхадныя дні садзіць памідоры альбо, што трэба зрабіць, каб хутчэй узышла бульба.

Загарадныя дачы як месца летняга адпачынку, менавіта толькі адпачынку, існуюць здаўна. У мінулым стагоддзі яны карысталіся папулярнасцю ў дастаткова забяспечаных слаёў грамадства: сярэдняга класа, інтэлігенцыі. Пазней, пры савецкай уладзе, дачы пачалі будавацца больш шырокімі коламі насельніцтва. Кавалкі зямлі для гэтага размяркоўвалі на прадпрыемствах, ва ўстановах. Нярэдка з-за адсутнасці неабходных сродкаў новаспечаныя дачнікі спачатку ўзводзілі нешта сярэдняе паміж будкай і хлявом. Але з цягам часу побач з фруктовымі дрэвамі і агародам з'яўляліся крыху зменшаныя копіі вясковых хат.

Сёння ж назіраецца суцэльны дачны "бум". Апошнім часам стала значна лягчэй атрымаць 5--6 сотак пад дачу, зняты шматлікія строгія абмежаванні на памеры збудавання. Вакол гарадоў пачалі расці, нібы грыбы пасля дажджу, сапраўдныя палацы. Але тым не менш і цяперашні тыповы дачны пасёлак больш нагадвае скопішча разнамасных, але падобных у сваёй



немудрагелістасці "шпакоўняў". Грошай на большае ў людзей, як і раней, не хапае. Звычайна амаль увесь зямельны ўчастак разворваецца пад бульбу, агарод і цяпліцы, ні пра якія там газоны няма размовы, бо дача для вельмі і вельмі многіх беларусаў -- адчувальнае падмацаванне ў забеспячэнні сем'яў прадуктамі харчавання.

Звычайна вясну сотні тысяч дачнікаў чакаюць, як спартсмены выстралу стартавага пісталета -- з нецярплівасцю і нават асалодай. Потым яны ж пачнуць ўсё клясці: і жыццё, і тыя грады, дзе трэба стаяць сагнуўшыся ўсе выхадныя дні. Надыдзе восень, будзе сабраны такі-сякі ўраджай, і, нягледзячы ні на што, зноў пачнецца чаканне -- чаканне новага дачнага сезона.

Галіна УЛІЦЁНАК.

Фота Віктара СТАВЕРА.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, Минск, праспект Ф.Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз.
Індэкс 63854. Зак. 533.
Падпісана да друку 27.5.1996 г.